№ 17 (65)
Верасень 2000

# Права на волю

Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна"



Фота "ПнВ"

Мінск, 15 верасьня. Беларускія сабакі таксама байкатавалі выбары свайго прэзідэнта...

# БАЙКОТ і толькі БАЙКОТ

***Пасьля аб'яўленьня 15 верасьня вынікаў рэгістрацыі выбарчымі камісіямі кандыдатаў у дэпутаты нават тыя, хто сумняваўся, зразумелі, што тактыка байкатаваньня выбараў у лукашэнкаўскі "парламент" была адзіна правільнай...***

Здарылася тое, што лёгка прагназавалася: незацікаўленыя ў тым, каб у "парламент" прайшлі прадстаўнікі апазіцыі, улады ўжо з першых перадвыбарных этапаў пачнуць адсейваць дэмакратычных кандыдатаў. Гэта прагназавалася, гэта, чакалася, але ніхто ня думаў, што ўлады будуць дзейнічаць гэтак нахабна і беспардонна. 15 верасьня стала вядома, што выбарчыя камісіі па розных прычынах, часта абсалютна

*(Працяг на стар.2)*

## Хроніка

*4 верасьня* ў Крупскім раённым судзе (Мінская вобласьць) адбыўся разгляд зыску старшыні Барысаўскай арганізацыі БСДП "Народная Грамада" Аляксандра Абрамовіча да Барысаўскага гарвыканкаму. А.Абрамовіч патрабаваў матэрыяльнай кампенсацыі маральнай шкоды ў суме 700 тыс. рублёў за тое, што ён утрымліваўся ў адной камеры з хворымі на адкрытую форму сухотаў, што катэгарычна забаронена дзеючым заканадаўствам. У ходзе судовага працэсу А.Абрамовіч павысіў суму зыскавых патрабаваньняў да мільёну рублёў (прыкладна 1000 даляраў ЗША), бо стала вядома, што адзін з яго былых сукамернікаў памёр ад туберкулёзу, а другі знаходзіцца на лячэньні. Аднак судзьдзя задаволіў зыск часткова – 200 тысяч рублёў. Такое рашэньне было патлумачана тым, што бюджэт г.Барысаву невялікі. А.Абрамовіч плануе абскарджваць судовае рашэньне ў калегіі па грамадзянскіх справах Мінскага абласнога суда, бо ўпэўнены, што яго жыцьцё і здароўе падвяргаліся рэальнай небясьпецы. Суд адбыўся ў Крупках, таму што А.Абрамовіч у зыскавай заяве адзначыў, што не давярае суду г.Барысаву.

*7 верасьня* ў Мінску гарадзкія ўлады забаранілі шэсьце прадстаўнікоў сексуальных меншасьцяў, якое павінна было адбыцца ў межах фестывалю "Гей-Прайд". Прычына для адмовы досыць фармальная: быццам бы заяўка на правядзеньне шэсьця пададзеная са спазьненьнем (пазьней чым за 15 дзён да акцыі). Але арганізатары сьцьвярджаюць, што заяўку падавалі своечасова, аднак яна сьпецыяльна была зарэгістраваная толькі 28 жніўня.

*(Працяг на стар.6)*

# Дзень вайсковай славы

Колькасьць міліцыянтаў каля плошчы Перамогі ў Мінску 8 верасьня, пэўна, перавышала колькасьць удзельнікаў сьвяткаваньня Дня беларускай вайсковай славы, якія прыйшлі сюды, каб ускласьці кветкі да помніку Перамогі. Аднак сьвяткаваньне ў цэлым прайшло без эксцэсаў. Толькі напачатку міліцыянты не хацелі пускаць удзельнікаў цырымоніі да помніку, але потым расступіліся і прапусьцілі людзей.

Сьвята працягвалася ў скверы Янкі Купалы, дзе адбыліся народныя гуляньні і паказальныя выступленьні рыцарскіх клубаў.


Фота "ПнВ"


Фота "ПнВ"


Фота "ПнВ"

# БАЙКОТ і толькі БАЙКОТ

*(Пачатак на стар. 1)*

надуманых і безпадстаўных, ад-мовілі ў рэгістрацыі прыблізна трэцяй частцы кандыдатаў у дэпутаты, якія ішлі на выбары пад дэмакратычнымі лозунгамі. Найбольш пацярпелі сацыял-дэмакраты на чале з М.Статкевічам, якія страцілі 13 сваіх кандыдатаў, і ліберал-дэмакратычны блок, які стварае дэпутат ВС 13-га склі-каньня В.Шлындзікаў — 9 кандыдатаў. "Улады выбілі найбольш адукаваных і найбольш падрыхтаваных да працы ў парламенце дэмакратычных кандыдатаў", — сьцьвярджае В.Шлындзікаў у інтэрв'ю "Белорусской деловой газете". З найбольш вядомых палітычных і грамадзкіх дзеячоў у рэгістрацыі адмоўлена: лідэру "Грамадзянскага форуму" У.Навасяду, старшыні Беларускага жаночага руху "Адраджэньне Айчыны" Т.Ванінай, старшыні дабрачыннага фонду "Дзецям Чарнобыля" Г.Грушавому, адвакату Г.Паганяйлу, праваабаронцу А.Волчаку, лідэ-ру афіцыйных прафсаюзаў У.Ганчарыку, жонцы былога прэм'ер-міністра РБ М.Чыгіра Юліі Чыгір... "Лёс" самога М.Чыгіра таксама пакуль ня вырашаны: выбарчая камісія, празасядаўшы два дні, прыняла рашэньне адкласьці рэгістрацыю яшчэ на тры дні. М.Статкевіч з перавагай усяго ў адзін голас быў зарэгістраваны, але выбарчая камісія, вядома ж, пры патрэбе зможа знайсьці не адну "прычыну" дзеля таго, каб выключыць яго са сьпісаў кандыдатаў. Пра гэта можна меркаваць, аналізуючы тое, за якія "недахопы" не зарэгістравалі іншых. Па прычыне "памылак у запаўненьні падпісных лістоў" не зарэгістраваныя ўжо названыя А.Волчак, Ю.Чыгір, Г.Грушавы, У.Навасяд... З-за "прадстаўленьня недакладных зьвестак у дэкларацыях пра даходы" зьнятыя эканаміст Л.Злотнікаў і сацыял-дэмакрат В. Адзіночанка. У апошняга знайшлі, што ён забыўся запісаць у дэкларацыю ганарар за лекцыю ў памеры 3 даляраў ЗША... У.Ганчарык не зарэгістраваны таму, што няправільна назваў марку сваёй машыны, Т.Ваніна і А.Пласкавіцкі за нібыта "вядзеньне датэрміновай агітацыі". Прычым без дадатковых тлумачэньняў, што гэта азначае...

Адмаўленьні ў рэгістрацыі па падобных прычынах выклікалі абурэньне і пратэст не толькі ў дэмакратычных арганізацыях. На незаконныя перашкоды, што ствараюцца ўладамі, у міжнародныя структуры скардзяцца камуністы на чале з С.Калякіным і лібералы на чале з С.Гайдукевічам. У адказ беларускія ўлады прапануюць "пакрыўджаным напісаць апеляцыі на імя... А.Лукашэнкі. Маўляў, ён разгледзіць вашую просьбу і, магчыма, дасьць дазвол на ўдзел вашага кандыдата ў выбарах. Такім чынам, усё становіцца на свае месцы: дэпутатаў у цяперашні "парламент" А.Лукашэнка абіраў сам, адзін, сьпісы дэпутатаў новага "парламенту" таксама будуць складзеныя і зацьверджаныя ім. А народ — хай гуляе ў выбары.

Тым часам беларуская дэмакратычная апазіцыя распачала акцыі па байкоце так званых выбараў. Выбарчы кодэкс не забараняе заклікаць выбаршчыкаў да байкоту. Але, тым ня менш, улады, кіруючыся арт. 167 КаАП РБ пачалі затрымліваць людзей, якія агітуюць за байкот. Быў арыштаваны і ўвесь наклад сьпецвыпуску газеты "Рабочы". Арышты і суды ідуць па ўсёй Беларусі. З больш падрабязнай інфармацыяй пра гэта можна пазнаёміцца на стар. 4-5 гэтага нумару бюлетэню "ПнВ". Скажам толькі, што кіраўнік кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ ў Беларусі Х.-Г. Вік паведаміў у інтэрв'ю Радыё "Свабода", што зьмены ў арт.167 КаАП могуць быць унесеныя асабіста А.Лукашэнкам ужо ў самы бліжэйшы час з дапамогай чарговага дэкрэту. Зноў, бачыце, вырашыць пытаньне можа толькі "асабіста Лукашэнка". І няхай пасьля гэтага нехта скажа, што ў нас не таталітарная дзяржава...

Як паказаў першы дзень акцыі апазіцыі "Байкот-2000" — 15 верасьня, — міліцыянтам аддадзены загад, кіруючыся менавіта гэтым артыкулам, арыштоўваць усіх, хто агітуе за байкот выбараў. Толькі ў гэты дзень за арганізацыю пікетаў было арыштавана 14 чалавек, у тым ліку і некалькі незалежных журналістаў, што прыйшлі з мэтай асьвятленьня акцыі апазіцыі.

Так абяцаньні А.Лукашэнка раздае ахвотна, але выконваць іх ня дужа сьпяшаецца. Вось было паабяцана, што з 15 верасьня на Нацыянальным тэлебачаньні пачне штодзень з 18 да 19 гадзінаў выходзіць у эфір перадача "Выбары-2000", у якой кожнаму кандыдату будзе адведзена пяць хвілінаў, каб ён коратка выклаў сутнасьць сваёй перадвыбарчай праграмы і даваў выбаршчыкам, чаму трэба галасаваць менавіта за яго. Аднак ні 15, ні 16 верасьня шырока ананcаваная перадача так і ня выйшла...

Такім чынам, паводзіны ўладаў і "асабіста А.Лукашэнкі" яскрава сьведчаць, што яны паставілі перад сабою задачу стварыць яшчэ адзін паслухмяны, але — увага! — легітымны, "парламент". Таму і гуляюць з міжнароднымі назіральнікамі, таму і даюць ад пачатку невыконваемыя абяцаньні. А гэта значыць, што адзіна правільнай тактыкай аб'яднанай апазіцыі ў адносінах да псеўдавыбараў можа быць — БАЙКОТ.

БАЙКОТ і толькі БАЙКОТ!

**Андрэй НАЛІВА.**

# Крымінальны перасьлед арганізатараў і ўдзельнікаў "Маршу Свабоды"

***Пасьля "Маршу Свабоды" 17 кастрычніка пракуратурай гораду Мінску была ўзбуджаная крымінальная справа па факце падзеяў, створаная працоўная сьледчая група, якая вядзе расьсьледваннье сутыкненьня ўзельнікаў акцыі з прадстаўнікамі ўлады. Па ўзбуджанай крымінальнай справе затрыманыя 6 чалавек, якія абвінавачаныя па Арт. 186.3 Крымінальнага Кодэксу Рэспублікі Беларусь: "арганізацыя ці актыўны ўдзел у групавых дзеяньнях, якія парушаюць грамадзкі парадак". По гэтым абвінавачаньні затрыманыя*** **— Мікалай Статкевіч, Валеры Шчукін, Андрэй Валабуеў, Глеб Догіль, Герман Сушкевіч і Антон Лазараў.** ***Кожнаму з іх, згодна з заканадаўствам, пагражае пазбаўленьне волі на тэрмін да трох гадоў ці папраўчыя работы на тэрмін да 2 гадоў альбо штраф.***




### Мікола Статкевіч

Мікола Статкевіч – старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная грамада". Пасьля акцыі 27 ліпеня г.г. (Дзень Незалежнасьці) быў затрыманы і абвінавачаны ў арганізацыі несанкцыянаванага шэсьця. 28 ліпеня суд прысудзіў М.Статкевічу пакараньне ў выглядзе 10 сутак адміністратыўнага арышту. У той час, калі лідэр сацыял-дэмакратаў адбываў адміністратыўнае пакараньне, у адносінах да яго была ўзбуджаная крымінальная справа за тое ж парушэньне. М.Статкевічу інкрымінаваны арт.186.3 КК РБ – "арганізацыя ці актыўны ўдзел у групавых дзеяньнях, якія парушаюць грамадзкі парадак" і абраная мера стрыманьня – падпіска аб нявыезьдзе.

М.Статкевіч – пасьля акцыі быў затрыманы ў памяшканьні штаб-кватэры сацыял-дэмакратычнай партыі. Цяпер М.Статкевіч знаходзіцца ў сьледчым ізалятары на вуліцы Валадарскага. М.Статкевічу была зьмененая мера стрыманьня – падпіска аб нявыезьдзе на арышт. 18 кастрычніка М.Статкевіч абвясьціў галадоўку ў знак пратэсту супраць дзеяньняў уладаў і міліцыі.

Вядзецца расьследваньне справы М.Статкевіча па вылучаным раней супраць яго абвінавачаньні, да гэтай справы далучаныя матэрыялы "Маршу Свабоды".

### Валеры Шчукін

Валеры Шчукін – дэпутат Вярхоўнага Савету РБ 13-га скліканьня, праваабаронца, журналіст – карэспандэнт газеты "Народная Воля".

В.Шчукін — адзін з заяўляльнікаў мітынгу і шэсьця "Марш Свабоды". Але калі гарадзкімі ўладамі шэсьце было забароненае, ён адмовіўся ад свайго подпісу і пайшоў на Марш у якасьці звычайнага ўдзельніка. На 19 кастрычніка В.Шчукін быў выкліканы ў Савецкі РАУС па позве, дзе быў затрыманы ў парадку арт. 119 Крымінальна-Працэсуальнага Кодэксу РБ. Пры затрыманьні В.Шчукін быў моцна зьбіты (ім пададзеная скарга ў пракуратуру Савецкага раёну г.Мінску).

Тры дні В.Шчукін знаходзіўся ў ізалятары часовага ўтрыманьня, а пасьля прад'яўленьня яму абвінавачаньня (22 кастрычніка) па арт. 186.3 КК РБ накіраваны ў сьледчы ізалятар на вуліцы Валадарскага. Абраная для В.Шчукіна мера стрыманьня – арышт.

Адносна В.Шчукіна парушаная дэпутацкая недатыкальнасьць. На яго арышт легітымны Вярхоўны Савет РБ дазволу не даваў, як таго патрабуе заканадаўства.

### Антон Лазараў

Антону 18 гадоў, працуе ён на Чэрвеньскім рынку памочнікам гандляра. За ўдзел у "Маршы Свабоды" быў затрыманы 21 кастрычніка на месцы працы: на рынку да яго падышоў міліцыянер і папрасіў ісьці з ім.

А.Лазараў быў спачатку дастаўлены ў Цэнтральны РАУС, адкуль ягоным родным паведамілі пра затрыманьне. Позна ўвечары або ў ноч на 22 кастрычніка А.Лазараў быў перавезены ў ізалятар часовага ўтрыманьня, а пасьля прад'яўленьня абвінавачаньня па арт. 186.3 КК РБ – у сьледчы ізалятар на вул Валадарскага, дзе знаходзіцца і цяпер.

### Андрэй Валабуеў

Андрэю 17 гадоў. Ён старэйшы сын у сям'і, якая мае чацьвёра дзяцей, скончыў вячэрнюю школу і цяпер праходзіць уладкаваньне на працу ў ВА "Гарызонт".

А.Валабуеў быў затрыманы разам з сябрамі – Сушкевічам Германам і Догілем Глебам – пасьля "Маршу Свабоды" у пераходзе метро "Плошча Перамогі". Маладыя людзі размаўлялі паміж сабою, калі да іх падышлі пяцёра чалавек у цывільным, заламалі хлопцам рукі і пацягнулі у машыны.

З Савецкага РАУСу, куды былі дастаўленыя затрыманыя, А.Валабуева ў ліку іншых перавезлі ў ізалятар часовага ўтрыманьня, дзе пратрымалі трое сутак. Яму было прад'яўленае абвінавачаньне па арт. 186.3 КК РБ і вызначаная мера стрыманьня – падпіска аб нявыезьдзе.

### Глеб Догіль

Глебу 20 гадоў, ён студэнт 4-га курсу гістарычнага факультэту БДУ. Па вызначэньні ягонай маці — "належыць да дэмакратычна настроенай моладзі" і зьяўляецца "кабінетным, кніжным" хлопчыкам. Г.Догіль мае дрэнны зрок, і родныя заклапочаныя ягоным станам здароўя.

Г.Догіль быў затрыманы людзьмі ў цывільным разам з Германам Сушкевічам (ягоны стрыечны брат) і Андрэем Валабуевым у пераходзе станцыі метро "Плошча Перамогі" і дастаўлены ў Савецкі РАУС. З РАУСу Г.Догіль быў перавезены ў ізалятар часовага ўтрыманьня. У ізалятары Г.Догіль правёў трое сутак і быў пераведзены ў сьледчы ізалятар на вуліцы Валадарскага. Абвінавачаньне Г.Догілю было прад'яўленае 27 кастрычніка (арт.186.3 КК РБ) і абвешчаная мера стрыманьня – знаходжаньне пад арыштам.

### Герман Сушкевіч

Герману 19 гадоў, ён студэнт 3-га курсу Беларускага дзяржаўнага універсітэту інфарматыкі і радыёэлектронікі (вячэрняе адзьдзяленьне), актывіст Маладога Фронту.

Г.Сушкевіч быў затрыманы пасьля "Маршу свабоды" 17 кастрычніка каля 17.00 у пераходзе станцыі метро "Плошча Перамогі" разам са сваім стрыечным братам Г.Догілем і сябрам А.Валабуевым. Паколькі асобы (пяцёра мужчынаў), якія затрымлівалі маладых людзей, былі ў цывільным, Г.Сушкевіч аказаў супраціўленьне, але яго моцна ўдарылі і пацягнулі ў машыну.

Спачатку Г.Сушкевіч, як і яго сябры, быў накіраваны ў Савецкі РАУС, затым перавезены ў ізалятар часовага ўтрыманьня, а адтуль – у сьледчы ізалятар на вуліцы Валадарскага.

Абвінавачаньне Г.Сушкевічу было прад'яўленае 27 кастрычніка (арт.186.3 КК РБ) і абвешчаная мера стрыманьня – знаходжаньне пад арыштам.

**Падрыхтавала Тацяна РЭВЯКА**

***У Грамадзкую прыёмную Праваабарончага Цэнтру «Вясна» зьвярнуліся грамадзяне пацярпелыя ад неправамоцных дзеяньняў супрацоўнікаў праваахоўных органаў пад час і пасьля заканчэньня палітычнай акцыі Марш Свабоды 17 кастрычніка ў г. Мінску. Гэтыя сьведчаньні — прыклад таго, як працуюць праваахоўныя органы ў Беларусі, для якіх нанясеньне фізічнай і маральнай шкоды, жорсткае зьбіцьцё затрыманых зьяўляецца прафесійнай нормай.***

# ...Яны дзейнічалі як фашысты...

## Факты зьбіцьця ўдзельнікаў Маршу Свабоды 17 кастрычніка ў Мінску

*Сьведчыць Абрагімовіч Марыя (супрацоўніца Інстытуту мовазнаўства Акадэміі Навук, г. Мінск):* "Мы з сяброўкаю гулялі па парку Горкага. Раптам пачалася нейкая мітусьня. Мы вырашылі перачакаць на лавачцы. Падышлі незнаёмыя людзі ў камуфляжнай форме, праверылі нашыя дакументы і павялі нас у двары... Прывезьлі ў Ленінскі РАУС і пачалі складаць на нас пратаколы. Абвінавачаньне ва ўсіх было аднолькавае: парушалі грамадзкі парадак, нецэнзурна выказваліся. Потым нас павезьлі ў Партызанскі РАУС, па дарозе нас абражалі. У шэсьць гадзінаў раніцы прыбылі АМАПаўцы дзеля адпраўкі нас у сьпецпрыёмнік... У аўтамашыне на падлозе было месіва з людзкіх целаў, чуліся стогны, нас зьбівалі дубінкамі, таптал нагамі. АМАПаўцы прымушалі нас пець, але ў мяне быў шок і я не магла прыгадаць ніводнае песьні. Тады мая сяброўка засьпявала песьню "В траве сидел кузнечик", а яны сталі патрабаваць "Солнечный круг"... Аднаму мужчыну засунулі ў рот дубінку, і ў гэты час нехта крычаў: "Сунь яму да самых гландаў!". Калі выходзілі з машынаў, адзін АМАПавец, павіснуўшы двума рукамі на поручні, выштурхоўваў нагамі ў сьпіну людзей з машыны."





*Сьведчыць Ганчар Мікалай Якаўлевіч (1962 г.н., г.Мінск):* "Па дарозе да аўтобуса нас білі і штурхалі. У аўтобусе зьбівалі з ног і валілі адзін на аднаго ў кучу. Я апынуўся ўнізе. На мне ляжалі тры ці чатыры чалавекі. Было цяжка, але тым, хто ляжаў наверсе было яшчэ горш, па іх хадзілі і скакалі, іх білі".

*Сьведчыць Мухля Юрый Адамавіч (г.Мінск):* "Мне нанесьлі некалькі ўдараў па тулаве, маёй галавой адчынялі дзьверы... Мяне кінулі ў аўтобус, дзе не далі падняцца, і, пагражаючы, прымусілі мяне ляжаць у ненатуральнай паставе. Калі паклалі ўсіх затрыманых, мы ад'ехалі ад Савецкага РАУСу. Праз хвілінаў 20-30 аўтобус спыніўся і супрацоўнікі АМАПу пачалі зьбіваць затрыманых. Мне задавалі пытаньне і на кожны адказ наносілі ўдар у вобласьць нырак. Супрацоўнік АМАПу сьмяяўся і казаў, што гэта тое самае, што ён пачаставаў бы мяне півам. Праходзячы па аўтобусе супрацоўнікі АМАПу наступалі на мяне і сьпецыяльна спыняліся, каб нанесьці мне боль".

*Сьведчыць Цурыкаў Анатоль Аляксандравіч (70 гадоў, г. Мінск):* "Я ў сутычцы ўдзелу не прымаў. Калі дэманстранты пачалі разьбягацца, я далучыўся да іх. Праз некалькі метраў мяне дагнаў чалавек у камуфляжнай форме і моцна ўдарыў дубінкай па галаве, а потым яшчэ і па назе. З разьбітай галавы моцна хлынула (гэта не перабольшванне) кроў. Пасьля гэтага мяне ніхто не біў. Некалькі жанчынаў спрабавалі мне дапамагчы, але ў іх не было бінтоў. Выклікалі "хуткую дапамогу", якая адвезла мяне ў 4-ю бальніцу, дзе наклалі на рану швы, зрабілі супрацьслупняковую ін'екцыю і праверылі на рэнгенаўскім апараце месца ўдару па галаве. На маё шчасьце, трэшчынаў на чэрапе не было".

*Сьведчыць Кавалёў Станіслаў Станіслававіч (1957 г. н., Мінская вобл.):* «17 кастрычніка я разам з усімі дэманстрантамі прайшоў увесь шлях Маршу Свабоды. У сутычках з міліцыяй ня ўдзельнічаў... Частка дэманстрантаў пачала адыходзіць па парку ў бок метро. І вось тут пачалі затрымліваць тых, хто выходзіў з парку. Мяне скруцілі і пацягнулі да машыны. Я пытаўся: "За што вы мяне затрымліваеце, і — хто вы такія?" Мне адказалі пагрозамі. Мяне павезьлі ў Савецкі РАУС г. Мінску, дзе на ўсіх затрыманых склалі пратаколы. Забіралі з камеры нашу партыю, прыкладна, у 2.00 — 2.30 ночы 18 кастрычніка супрацоўнікі АМАПу. Пры ўваходзе ў аўтобус мяне ўдарылі, я ўпаў, пасьля чаго мяне білі нагамі і гналі ў канец аўтобуса. Кінулі на падлогу. Я чуў, як наступныя праходзілі такую ж "апрацоўку". Апошніх яны кідалі на тых, што ляжалі ўнізе (у тым ліку і я).Мы пачалі задыхацца ад недахопу паветра. Я чуў, як яны білі студэнта, білі настолькі па-зьвярынаму, што нават афіцэр АМАПу пачаў супакойваць сваіх падначаленых. Пасьля нас некуды павезьлі, амапаўцы сьмела хадзілі па галовах і целах ляжачых, калі хто-небудзь пачынаў варушыцца, білі зноў. Затым мы стаялі недзе каля 40 хвілінаў, мне зрабілася зусім кепска, бо ў мяне хворае сэрца. У гэтым стане я пачуў, што нехта з затрыманых папрасіў дазволу падняцца, бо яго пачало ванітаваць, а нехта з АМАПаўцаў сказаў: "Хай рыгае на сваіх". Далей я кепска памятаю, што было, бо страціў прытомнасьць. Прыйшоў у сябе толькі пад час руху аўтобусу, калі маса людзей, якая ляжала на падлозе пачала перамяшчацца збоку ўбок. Калі нас прывезьлі, я выходзіў апошнім і ня мог стаяць на нагах, таму некалькі АМАПаўцаў трымалі мяне, а астатнія "апрацоўвалі" маё цела дубінкамі і нагамі. Затым адпусьцілі з аўтобуса і ўжо на вуліцы пусьцілі праз свае шэрагі да сьцяны нейкага будынку (як пазьней аказалася гэта быў сьпецпрыёмнік-размеркавальнік на вул.

*(Працяг на стар. 6-7)*

# “Ты трапіла ў паліцэйскую дзяржаву,”

## — сказаў супрацоўнік міліцыі грамадзянцы Расіі.

***Пасьля заканчэньня Маршу Свабоды былі затрыманыя ня толькі беларускія грамадзяне, але і грамадзяне Расіі. Дзьве гадзіны правяла ў міліцыі затрыманая ў ходзе акцыі Дэпутат расійскай Дзяржлумы (фракцыя “Яблоко” Вольга Бяклемішчава), а маладая журналістка Анастасія Неказакава вярнулася з Маршу Свабоды толькі ў 5 гадзінаў раніцы 18 кастрычніка. Анастасія Неказакава вучылася ў Маскве ва Універсітэце геадэзіі і картаграфіі па спецыяльнасьці географ-картографіі, працавала настаўніцай у школе, займалася экалагічнай дзейнасьцю, удзельнічала ў маладзёжным руху "Захавальнікі вясёлкі" (“Хранители радуги”). Зараз жыве ў Мінску, працуе ў газеце “Навінкі”. Вось што яна распавяла.***

Тое, што я пабачыла ў Беларусі 17 кастрычніка, кардынальна адрозьніваецца ад таго, што бывае ў Расіі. Калі нас забіралі падчас экалагічных акцыяў, дык вельмі баяліся шуміхі. Гвалт, калі ён і быў, дык амаль незаўважны. АМАПапаўцы баяліся, што калі яны павядуць сябе некарэктна пры затрыманьні, дык пасьля будзе адпаведны рэзананс, а таму яны ведаюць межы. Тут жа было такое адчуваньне, што межаў няма...

Я трапіла на мітынг на плошчы Бангалор, калі ён ужо заканчваўся. Мне ўжо даводзілася бываць на мітынгах у Беларусі і вясной, і летам. Я бачыла, што адбываецца спад грамадзкай актыўнасьці. Але 17 кастрычніка мяне адразу ўразіла колькасьць людзей. Вельмі шмат было моладзі, што асабліва мяне ўзрадвала, таму што ў Расіі самая актыўная частка насельніцтва — сталыя людзі. Ня ведаю чаму, але моладзь у Расіі абсалютна апалітычная. А тут я пабачыла маладых людзей, якім не ўсё роўна, што адбываецца з іх краінай...

Мы дайшлі да праспекту Скарыны. Адразу не зразумелі, чаму ўсе не пайшлі праз плошчу Перамогі. Мы з сябрам вырашылі не ісьці разам з усімі па вул. Казлова, а пайсьці праз вул. Захарава, каб сустрэць пачатак калоны. Як мне сказалі пасьля ў міліцыі, нас “засеклі” якраз на плошчы Перамогі, калі мы стаялі і глядзелі — былі нават ня ў першых шэрагах, а перад першымі шэрагамі. Мы мірна ішлі па вул. Захарава, калі на нас накінуліся людзі ў цывільным і сталі запіхваць у “Жыгулі”. Я яшчэ падумала: "Можа быць, нас выкрадаюць! Напэўна, людзі памыліліся, што яны могуць з нас мець?" Я думаю, што людзі на прыпынку, якія назіралі за гэтым, мелі цікавае відовішча. Мы ехалі ў машыне і пыталіся пра дакументы ў тых, хто нас арыштаваў. Яны адказалі: “У нас дакументы ў парадку...” Мы зразумелі, што затрымалі нас за ўдзел у дэманстрацыі і едзем мы ў РАУС.

Калі мы прыехалі ў РАУС Савецкага раёну г. Мінску, там быў адзін падлетак, якога забралі за тое, што ён расклейваў запрашэньні на Марш Свабоды. Гэта было ў 15.40. Пачалі складаць тлумачальныя, а міліцыянты ўсе маладыя (ці ў іх практыка была, ці яны першы год працуюць) пачалі пытацца адзін у аднаго, як складаць тлумачальныя. Адзін вельмі сумняваўся: ці трэба ў тлумачальный пісаць, што супрацоўнікі міліцыі не прадстаўляліся. Мы яму казалі: “Пішы, пішы — гэта патрабуецца па законе. Так трэба пісаць”.

Гадзіны праз паўтары пачалі актыўна паступаць людзі, якія расказвалі пра сутычкі, што адбыліся на мосьце праз Сьвіслач. Мы падумалі: “Крыўдна, што так рана нас забралі і мы гэтага не пабачылі”. Пратаколы на нас пачалі складаць толькі каля 23 гадзінаў. Усе ўжо стаміліся. Нехта сядзеў і перажываў, што выганяць з універсітэту. Апошніх людзей прывезьлі ў 22.00 — хлопец з дзяўчынай удзельнічалі ў дэманстрацыі, пасьля паехалі ў госьці да сваёй сяброўкі, пілі гарбату, сяброўка пайшла праводзіць іх да станцыі метро “Усход”, і там іх усіх трох забралі. Праз паўгадзіны прыехала маці гэтай непаўнагадовай дзяўчыны, да якой яны хадзілі ў госьці. Маці да дзьвюх гадзінаў ночы там даказвала, што яе дачка цэлы дзень была дома: “Выйшла дзіця на пяць хвілінаў правесьці сяброў і зьнікла. Тэлефануюць з РАУСу і кажуць, што затрымалі за ўдзел у дэманстрацыі! Як такое магло быць!”

Пасьля таго, як склалі пратаколы, мяне прывялі да начальніка РАУСу. Прозьвішча яго, здаецца, Гусінскі. Ён сядзеў, як мне падалося, паўп'яны ў сваім кабінеце, разваліўшыся ў крэсьле. Ён быў у цывільным. Да яго па адным прыводзілі затрыманых. Гэты чалавек пакінуў у мяне жахлівае ўражаньне. Выказваўся ён выключна нецэнзурна. Я зайшла да яго і адразу села. Тут жа мне сказалі, што я павінна стаяць перад начальнікам. Прэскарту маю, можна сказаць, згвалцілі: спачатку яе спрабавалі падзяліць на дзьве часткі, пасьля падпаліць. Начальнік казаў свайму памочніку: “Разарві, я кепска бачу!” Пасьля памочнік проста парэзаў прэс-карту ўпоперак. Дыялог з начальнікам быў бессэнсоўным. Ён мне спачатку расказваў, як ён любіць Расію і паважае ўсіх расійскіх людзей, пасьля пачаў крычаць, што “вы прыяжджаеце сюды, каб нам жыць перашкаджаць”. Потым ён пачаў мне крычаць: “Ці ведаеш т ы чым у нас мужчын гвалцяць у турмах?” Вельмі падрабязна пачаў мне тлумачыць чым і як. Ён быў паўп'яны таму ня мог адразу ўзгадаць і казаў: “Яшчэ ведаеш, такімі сіненькімі, я ня памятаю, як яны называюцца, ну, фрукты такія”. Пасьля яму нехта падказаў: “Баклажаны!”

Я не магла зразумець, што я павінна рабіць: радавацца, што я не мужчына, ці з жанчынамі абыходзяцца яшчэ горш. Для яго гэта відаць тэма нейкая хворая, таму што ён мне доўга гаварыў: “Паглядзі на сябе, як ты стаіш, — так толькі ананісты стаяць”. Пасьля ён пачаў мне расказваць, хто такія ананісты. Нейкія хворыя ў яго былі фантазіі... Затым падышоў і з размаху пачаў біць мяне рукою па галаве са словамі: “Прабач, але ты сама ведаеш за што! Гэта дзеля тваго выхаваньня!” Мне зрабілася крыўдна. А побач стаяў малады міліцыянт і сьмяяўся. Я стала кідацца да дзьвярэй, ён пачаў мяне адцягваць і прыдушваць, а свайму памочніку загадаў зачыніць дзьверы.

Пасьля мне зноў расказвалі пра жахі турэмнага жыцьця, дакладней, пра долю апазіцыянера ў зьняволеньні. Мне казалі: “Там прастытуткі, у іх хваробы. Уяві: кароста. Пасядзіш і ў цябе такое будзе... А тады ня будзеш нават ведаць чым хварэеш”.



Анастасія НЕКАЗАКАВА

Пасьля гэты намесьнік начальніка Савецкага РАУСу Гусінскі паказаў мне на вялікі партрэт Лукашэнкі, які вісеў у яго у кабінеце, і сказаў: “Ты ведаеш, хто гэта? Гэта наш бацька-прэзідэнт! А ты ведаеш, у якую дзяржаву ты трапіла? Ты трапіла ў паліцэйскую дзяржаву. У нас ёсьць прэзідэнт, якога ніхто ня любіць, і мы павінны бараніць яго ад народу. Мы мусім выконваць сваю місію!” Проста класічная фраза. Пасьля гэтага мяне накіравалі ў прыёмнік-разьмеркавальнік на вул. Акрэсьціна.

Мяне доўга вазілі на АМАПаўскім аўтобусе разам з усімі, але ў пяць гадзінаў раніцы мне пачалі казаць: “Давай усё замнём. Ніякіх крыўдаў”. Гэта мне гаварыў іншы чалавек, ён таксама быў у цывільным. Я сказала, што нічога не абяцаю. Але варта адзначыць, што там ніхто не прадстаўляўся, а твары ў іх вельмі падобныя. Ніводны супрацоўнік міліцыі ніразу не прадставіўся, ні тады, калі затрымлівалі, ні тады, калі пісалі пратаколы. Там адзінае, што ў іх каля кабінета начальніка вісіць Дошка гонару і там ёсьць твары з прозьвішчамі. У пяць гадзінаў раніцы мяне адпусьцілі.

Дададзім толькі, што 22 кастрычніка над Зьміцерам Юркевічам, які быў затрыманы разам з Анастасіяй Неказакавай адбыўся суд. Яго апраўдалі, бо нават з дапамогай аператыўных відзаздымкаў ня здолелі даказаць ягоны ўдзел у Маршы Свабоды.

**Запісала Паліна СЬЦЕПАНЕНКА**

# Падзеі Факты Каментары

(Пачатак на стар. 1)

*17 красавіка* першай ахвярай мінскай міліцыі стаў казёл, якога маладыя людзі хацелі прывесьці на "Марш Свабоды". Міліцыянты "арыштавалі" яго на падыходзе да плошчы Якуба Коласа. Назаўтра бездапаможная жывёла была зарэзаная супрацоўнікамі міліцыі...

*20 кастрычніка* ў Оршы (Віцебская вобласьць) былі затрыманы вучань 11-га класа СШ №13 сямнаццацігадовы Зьміцер Шарамет і вучань 11-га класа СШ №12 сямнаццацігадовы Зьміцер Граблеўскі. Яны абвінавачаныя ў тым, што два гады таму зьнялі сьцяг на будынку мясцовага гарвыканкаму і зьмянілі яго на нацыянальны бел-чырвона-белы сьцяг. 22 кастрычніка школьнікаў адпусьцілі. Супраць З. Граблеўскага ўзбуджаная крымінальная справа па Арт. 201, ч.2 КК РБ.

*20 кастрычніка* мінчанка Вера Церлюкевіч зьвярнулася ў суд Першамайскага раёну сталіцы Беларусі з зыскам да Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі РБ і непасрэдна да вядучага праграмы "Рэзананс" А.Зімоўскага. В. Церлюкевіч прымала ўдзел у "Маршы свабоды" і таму палічыла абразай словы А.Зімоўскага, які назваў удзельнікаў шэсьця "кучай адмарозкаў". Свае маральныя страты ад зьвестак, якія "ганьбяць гонар і годнасьць", В.Церлюкевіч ацаніла ў 3 мільярды рублёў.



*22 кастрычніка* пасьля доўгага перапынку выйшаў нумар газеты "Навіны", цалкам прысьвечаны падзеям 17 красавіка. Наклад газеты 100 тысяч асобнікаў быў распаўсюджаны бясплатна.

*24 кастрычніка* ў горадзе Бяроза (Брэсцкая вобласьць) мясцовыя прыхільнікі дэмакратычных партыяў і аб'яднаньняў правялі пікет супраць далучэньня Беларусі да Расіі, супраць галечы і падзеньня ўзроўню жыцьця, супраць закрыцьця незалежных газетаў. Падчас акцыі таксама зьбіраліся подпісы пад патрабаваньнем да ўладаў правесьці незалежнае расьсьледваньне па фактах зьнікненьня Ю.Захаранкі, В.Ганчара, А.Красоўскага, Т.Віньнікавай.

*27 кастрычніка* ўпраўленьне юстыцыі Мінгарвыканкама распачало планавую праверку грамадзкага аб'яднаньня "Прававая дапамога насельніцтву". Кіраўнік аб'яднаньня А. Волчак лічыць, што праверка зьвязаная з актыўнай праваабарончай дзейнасьцю і найперш у сувязі з юрыдычнай дапамогай грамадзянам, якія пацярпелі ад дзеяньняў міліцыі 17 кастрычніка.

*27 кастрычніка* А.Лукашэнка выступіў у расійскай Дзяржднуме па запрашэньні дэпутатаў, зьвязаным з падзеямі 17 кастрычніка ў Мінску. У сваім амаль двухгадзінным выступленьні

# ...Яны дзейнічалі як фашысты...

*(Пачатак на стар.4)*

Акрэсьціна). Нас паставілі на "расьцяжку" каля сьцяны (шырока расставіўшы рукі і ногі) і працягвалі "апрацоўку". Асабліва жорстка яны зьбівалі хлопца, які быў у доўгім скураным паліто. Пасьля афіцэр АМАПу загадаў перастаць яго біць, бо хлопец ужо не рэагаваў на ўдары.

Гэтую ноч кашмару я запомню на ўсё жыцьцё. Так біць і так маральна зьневажаць людзей маглі толькі фашысты ў канцлагерах".

*Сьведчыць Капарыха Павел Аляксеевіч (г. Мінск)*: "Падчас правядзеньня акцыі "Марш Свабоды" я быў затрыманы невядомымі асобамі ў цывільным, якія не прад'явілі ніякіх дакументаў. Нас (5 чалавек затрыманых даставілі ў Савецкі РАУС г. Мінску. Пасьля ўтрыманьня ў РАУСе (каля 4 гадзінаў) нашу групу затрыманых перавезьлі ў прыёмнік-разьмеркавальнік на вул. Акрэсьціна. Перад пагрузкай у аўтобус, кожнага з нас прапусьцілі праз строй АМАПаўцаў, у аўтобусе нас паклалі на падлогу, падчас руху працягвалі зьдзекавацца: зьбіваць, хадзіць па людзях, усяляк зьневажаць. За спробу прыўзьняць галаву, адразу білі".

*Сьведчыць Капарыха Андрэй Аляксеевіч (Г.Мінск)*: "Падчас майго затрыманьня за ўдзел у шэсьці "Марш Свабоды" мяне жорстка зьбілі невядомыя людзі ў цывільным, а затым адвезьлі ў Кастрычніцкі РАУС. Пры затрыманьні супрацоўнікі міліцыі не пра'ядвілі свае пасьведчаньні, абражалі, наносілі ўдары дубінкамі па спіне і нагах. (...) Пры пасадцы ў аўтобус я трымаў рукі за галавой, а АМАПавец нанёс мне ўдар рукой ў сонечнае спляценьне, а таксама некалькі ўдараў па нырках. У аўтобусе нас было 10 чалавек (7 хлопцаў, 2 дзяўчыны і 1 сталая жанчына). Мы ляжалі на падлозе паміж сядзеньнямі адзін на адным. Пры спробах паварушыцца, у наш адрас сыпаліся пагрозы. Потым адзін з АМАПаўцаў пачаў размаўляць з усімі намі па чарзе. Яго цікавіла: хто мы, чым займаемся, якую маем зарплату. Пад час размовы з кожным з нас ён наносіў удары рукамі і нагамі. Мне былі нанесеныя чатыры ўдары па нырках, а пасьля па галаве".

*Сьведчыць Сачанка Ігар Аляксандравіч*: "Пасьля заканчэньня акцыі Марш Свабоды я са сваім сябрам быў затрыманы ў канцы вул. Пуліхава асобамі ў цывільным, якія не прадстаўляліся і не паказвалі ніякіх дакументаў. Пры затрыманьні мы не аказвалі ніякага супраціўленьня, але мяне схапілі за шыю, павалілі на зямлю і прыціснулі каленам. Шыю сьціснулі так, што на пытаньне пра дакументы, я ня мог нічога адказаць, бо перацялі дыханьне. Затым маім уласным рамянём, выцягнутым з джынсаў завязалі мне рукі за сьпіной і адвезьлі ў Савецкі РАУС, дзе мы былі з 17.30 да 00.30. Пасьля гэтага затрыманых павезьлі ў прыёмнік-разьмеркавальнік на вул. Акрэсьціна. Перад пагрузкай у аўтобус кожнага з нас прапускалі праз строй АМАПу. У аўтобусе паклалі на падлогу, пад час руху АМАП працягваў зьдзекавацца: зьбіваць, хадзіць па спінах, усяляк зьневажаць. За спробай падняць галаву адразу ішлі некалькі ўдараў".

Пад час акцыі 17 кастрычніка ў Мінску ад супрацьпраўных дзеяньняў супрацоўнікаў праваахоўных органаў пацярпелі журналісты і лідэры грамадзкіх аб'яднаньняў. У *Фігулеўскую Валяньціну* (кіраўнік жаночага цэнтру г.Ліды) супрацоўнік міліцыі кінуў камень, у выніку чаго ў В.Фігулеўскай быў расьсечаны твар. Супрацоўніка газеты "Навінкі" *Міколу Салаўя* пасьля закан-

# Новыя ахвяры леташняй трагедыі...

Мінулагодняя трагедыя ў падземным пераходзе метро станцыі "Няміга" нагадала пра сябе сёлета іншым чынам. 12 верасьня ў судзе Першамайскага раёну г.Мінску адбылося судовае паседжаньне па абвінавачаньні Тоесавай Сьвятланы Мікалаеўны ў зьдзяйсьненьні злачынства, прадугледжанага арт. 224 Крымінальнага кодэксу РБ (апаганьваньне магілаў). Зыск быў пададзены В. Бобрыкавым, дачка якога загінула на Нямізе 30 траўня 1999 году.

Тоесава С.М. абвінавачвалася ў тым, што сёлета 12 ліпеня зранку разам са сваёй 32-гадовай дачкой Шалковіч Аленай пайшла на Усходнія могілкі і выкапала там з магілы Вольгі Бобрыкавай восем кустоў бягоніяў, пасаджаных бацькамі. Юрыдычнай мовай гэта называецца "нанесла пацярпеламу маральную шкоду і маёмасную страту".

Спачатку крымінальная справа была ўзбуджаная супраць абедзьвух жанчынаў, але паколькі А.Шалковіч мае двух непаўнагадовых дзяцей, справа супраць яе была спыненая згодна з амністыяй некаторых груп грамадзянаў. Таму перад судом паўстала толькі яе пяцідзесяцігадовая маці, а дачка выступала ў якасьці сьведкі..

Падсудная цалкам прызнала сваю віну. Яна растлумачыла, што ў хаце не было грошай, і яны з дачкой вырашылі такім чынам папоўніць сямейны бюджэт, прадаўшы здабытыя кветкі. На могілках яны былі затрыманыя аховай. Супрацоўнікі міліцыі, разабраўшыся, адкуль жанчыны выкапалі кветкі, патэлефанавалі Бобрыкавым дахаты. Валеры Дзмітрыевіч адразу ж прыехаў на могілкі і ўбачыў, што на магіле дачкі няма кветак, якія яны з жонкай пасадзілі толькі ў траўні і вельмі старанна даглядалі.

Старшыняваў на працэсе судзьдзя А.Аніскевіч. Прысуд Тоесавай С.М. быў вынесены вельмі жорсткі – 1 год пазбаўленьня волі ў калоніі агульнага рэжыму.

Яшчэ адна крымінальная справа па тым жа абвінавачаньні ўзбуджана ў судзе Першамайскага раёну г.Мінску па зыску Янцовай В.П., дачка якой таксама загінула на Нямізе 30 траўня 1999 г. У бліжэйшы час адбудзецца яшчэ адзін судовы разгляд.

# Вінаватыя пакараныя

29 жніўня гг. у Швецыі, у г. Гётэборг вынесены прысуд па справе чатырох чалавек, якія 30 кастрычніка 1998 году (на Хэлоўін) падпалілі дыскатэку. У пажары загінула 63 чалавекі — ад 14 да 20 гадоў, 250 атрымалі апёкі і траўмы розных ступеняў цяжкасьці. За дапамогу сьледзтву дзяржава паабяцала тры мільёны швецкіх кронаў (каля трохсот тысячаў даляраў). У выніку злачынцы — хлопцы іранскага паходжаньня, якія прыехалі ў Швецыю з Ірану са сваімі бацькамі на пачатку дзевяностых — былі знойдзеныя. Суд прызнаў усіх чатырох вінаватымі. Увечары 30 кастрычніка 1998 году яны хацелі прайсьці на дыскатэку без квіткоў, адмаўляліся плаціць. Калі з гэтага нічога не атрымалася, вырашылі "сапсаваць вечарынку", праз чорны ўваход кінулі ў будынак падпаленую паперу. Пачаўся пажар. Падчас сьледзтва юнакі настойвалі на тым, што "не хацелі ахвяраў" і "ня думалі, што могуць загінуць людзі". Маладых іранцаў абаранялі вядомыя ў Швецыі адвакаты, якія сьцьвярджалі, што іх падабаронныя ня мелі плану наўмыснага забойства. У выніку 21-гадовы малады чалавек, які прызнаўся, што менавіта ён падпальваў паперу, атрымаў 8 гадоў турэмнага зьняволеньня. Яшчэ двое (21-гадовы і 19-гадовы), якія не прызналі сваю віну, асуджаныя на 7 гадоў. Тры гады прымусовага "псіхічнага лячэньня маладых злачынцаў" атрымаў 19-гадовы хлопец, які першым прызнаў свой удзел у злачынстве і выступіў у якасьці сьведкі.

Такі прысуд лічыцца ў па швецкіх законах вельмі суровым пакараньнем для людзей маладога ўзросту. Але і падпал з ахвярамі лічыцца ў Швецыі адным з самых жахлівых злачынстваў.

Судовы працэс над затрыманымі пачаўся вясной 2000 году, у ім прыняло ўдзел шмат людзей — сьведкаў (каля 300) і сваякоў загінуўшых (250).

***P.S.*** Сьледзтва паводле трагедыі ў падземным пераходзе станцыі метро "Няміга" ў Мінску працягваецца. Беларуская грамадзкасьць ніяк не інфамуецца пра ход яго і вынікі...

**Інфармацыйны аддзел ПЦ "Вясна"**

# Чужая на роднай зямлі...

*(Пачатак на стар. 3)*

і вучні, якія змагаюцца за родную мову, але змаганьне гэтае даецца цяжэй і цяжэй, бо на баку адміністрацыі школы ўсё: і ўлады, і сітуацыя ў краіне, і гэтаквзвана "грамадзкая думка", і тое, што дагэтуль перспектываў у тых, хто скончыць беларускамоўныя школы няма — ім давядзецца ісьці вучыцца ў рускамоўныя ВНУ...

Яшчэ напачатку гэтага году Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны атрымала адказ з упраўленьня адукацыі Мінскага гарадзкога выканаўчага камітэту аб тым, што начальнікам упраўленьня М.С.Цыцянковым "дадзенае даручэньне аддзелам адукацыі Адміністрацыяў раёнаў прааналізаваць існуючую сетку беларускіх школ, класаў і ўнесьці канкрэтныя прапановы па стварэньні ўмоў для далейшага разьвіцьця беларускамоўнай адукацыі". Час ідзе, сітуацыя не зьмяняецца, а калі і зьмяняецца, дык у горшы бок, а міністэрства ніяк не рэагуе... Ці не азначае гэта, што ўсё ідзе "па плане"? Так, сёньня амаль палова беларусаў карыстаецца ў паўсядзённым жыцьці роднай мовай і 81, 6 адсоткаў жыхароў Беларусі лічыць сябе беларусамі, але што будзе заўтра?

**Л. КАТКОВІЧ.**

# Няма прарока ў сваёй Айчыне

## *Пасьля ад'езду з Беларусі Васіля Быкава і Уладзіміра Някляева родны край зьбіраецца пакінуць і пісьменьніца Сьвятлана Алексіевіч*

13 верасьня ў Доме дружбы адбылася канферэнцыя "Разбуранае XX стагоддзе: хроніка Будучыні", якую ладзіў Міжнародны жаночы фонд Сьвятой Еўфрасіньні Полацкай і грамадзкае аб'яднаньне "Літаратурна-мастацкі фонд "Гронка". У рамках гэтай канферэнцыі адбылася прэзентацыя кнігі Сьвятланы Алексіевіч "Чарнобыльская малітва".

Гэта ўжо сямнаццатае выданьне добра вядомай кнігі пісьменьніцы. І толькі цяпер кніга пабачыла сьвет па-беларуску. Фінансавую падтрымку праекту аказала Пастаяннае прадстаўніцтва ААН у Беларусі, праграма "Matra" пасольства Нідэрландаў у Польшчы і нямецкая грамадзкая ініцыятыва "Жыцьцё пасьля Чарнобылю"(г.Брэмен, Германія ).

Трэба адзначыць, што пасьля прыходу да ўлады Лукашэнкі ў Беларусі не выдадзена ніводнай кнігі Сьвятланы Алексіевіч. І гэтае выданьне, як бачым, таксама ажыцьцёўленае без удзелу дзяржавы.




У канцы верасьня вядомая пісьменьніца, аўтар кніг "У вайны не жаночае аблічча", "Апошнія сьведкі", "Цынкавыя хлопчыкі", "Зачараваныя сьмерцю" і "Чарнобыльская малітва," на два гады пакіне Беларусь. Па запрашэньні і на стыпендыю пісьменьніцкай арганізацыі, існуючай у структуры Еўрапарламенту, Сьвятлана Алексіевіч будзе жыць і працаваць у Фларэнцыі (Італія). Там яна плануе закончыць працу над кнігай "Дзіўныален вечных ловаў", у якой будзе ўслаўленае каханьне. Яна плануе на працягу гэтых гадоў перыядычна прыязджаць на Радзіму.

На прэзентацыі сваёй кнігі пісьменьніца сказала: "Страх – гэта і ёсьць параза перад уладамі".

**Леанарда МУХІНА.**

# Пад пагрозай зьнікненьня

## Звычайная справа: малым народам няма месца на сваёй зямлі ў вялікіх імперыях

***Вельмі часта беларусы, разважаючы пра саюз з Расіяй, забываюць пра лёс народаў, якія ўваходзяць у склад Расійскай Федэрацыі. Між тым лёс гэтых народаў вельмі сумны — яны зьнікаюць...***

Комі — адзін з фіна-угорскіх народаў, які жыве ў Расійскай Федэрацыі, у яе паўночна-заходняй частцы, з заходняга боку Уральскіх гор. Мова комі адносіцца да фіна-угорскай групы. У 1917 годзе, калі бальшавікамі было абвешчанае права на самавызначэньне, комі вырашылі скарыстаць гэты гістарычны шанц. 22 жніўня 1921 году ў складзе Расіі была абвешчаная Аўтаномная вобласьць Комі. У 20-ыя гады на комі-мову перайшла ўся адукацыя, прэса, кнігавыдавецтва, справаводства і нават паштова-телеграфныя паслугі. У такой форме (з дзяржаўнай мовай) Комі-аўтаномія існавала з 1921 па 1928 год. У той час комі складалі восемдзесят працэнтаў насельніцтва сваёй вобласьці. Што ж здарылася з комі-народам пасьля?

Пра гэта распавёў Ільля Мацюшэў — актывіст арганізацыі за правы комі-народу "Доръям асьнымос" ("Абаронім сябе"). У Мінску прадстаўнік комі-народу наведаў Праваабарончы Цэнтр "Вясна". Ільля Мацюшэў расказвае: "Напрыканцы 20-х гадоў пачаўся маскоўскі ўціск. У 1932 годзе КДБ сфабрыкавала шэраг масавых судовых працэсаў супраць палітычнай і культурнай эліты комі. Нацыянальная эліта была вынішчаная, расстраляная. Той, хто пазьбегнуў расстрэлу, шмат гадоў правёў у канцэнтрацыйных лагерах. Пасьля таго, як эліта была зьнішчаная, Масква цынічна перайменавала Комі ў Рэспубліку, і адначасова распачала палітыку, скіраваную на ўціск комі-народу. На тэрыторыі Комі Рэспублікі пачалі ствараць савецкія канцэнтрацыйныя лагеры. З усяго Савецкага Саюзу сюды звозіліся зьняволеныя. Комі-край стаў цэнтрам ГУЛАГу.Назіральныя вышкі і калючы дрот акружылі практычна кожную комі-вёску.

Пасьля сьмерці Сталіна рускае каланіяльнае панаваньне ня зьменшылася. Пад згідай савецкай кампаніі "засваеньня Поўначы" сотні тысячаў рускамоўных прыехалі ў Комі. Ніхто з іх не жадаў вывучаць комі-мову. Затэрарызаваны сталінскім рэжымам, адлучаны ад інтэлігенцыі, комі-народ ня меў моцы пра-тэставаць і апынуўся ў стане нацыянальнай меншасьці. Усе ключавыя пазіцыі ва ўладзе, экаміцы і нават культуры занялі рускамоўныя камуністы. Комі-мову пачалі гвалтоўна выключаць з усіх сьфераў ужытку. Масква, выкарыстоўваючы рускамоўную большасьць, паступова зачыняла школы з комі-моўвай навучаньня.

Калі пачалася перабудова і стаў відавочным непазьбежны развал Савецкай імперыі, комі былі зьнясіленыя, каб выявіць нейкую актыўную ініцыятыву. Тым ня менш, 14 жніўня 1991 году, за пяць дзён да жнівеньскага путчу, група актывістаў вырашыла стварыць комі-нацыянальную партыю. У гэты час у комі-народу было шмат праблемаў. Сярод іх — адсутнасьць прадстаўленасьці ва ўладзе (кіраўніцтва імі ажыцьцяўлялі прадстаўнікі іншых нацыянальнасьцяў). Адсутнічала дэмакратычнасьць і ў створанай у 1991 годзе арганізацыі "Зьезд комі-народу", якая прэтэндавала на тое, каб прадстаўляць увесь комі-народ, але цалкам залежала ад рускамоўных уладаў.

Сур'ёзная праблема і па сёньня ў Комі — наяўнасьць рэліктаў ГУЛАГу: зонаў з іх персаналам, ваенізаванай аховай і зэкамі. Вялікая праблема — адсутнасьць у шырокага кола комі-народу нацыянальнай самасьвядомасьці на фоне масавай рускай культурнай экспансіі. Пры наяўнасьці ўсіх гэтых праблемаў 14 лютага 1993 году ў Сыктыўкары — сталіцы Комі-рэспублікі — адбыўся зьезд партыі, назва якой "Доръям асьнымос" ("Абаронім сябе"). Партыя прапанавала правядзеньне разьдзельных выбараў, г.зн. комі самі выбіраюць сваіх дэпутатаў (асобна ад іншага насельніцтва). Такім чынам, з дэпутатаў утвараюцца дзьве палаты, адна з іх — Палата комі-народу: прадстаўнічы орган карэннага народу, які мае права вета на ўсе законы, прынятыя рускамоўнай палатай. Але Расія, пасьля таго як страціла кантроль над былымі саюзнымі рэспублікамі, не жадала губляць кантроль над народамі, якія знаходзяцца пад юрысдыкцыяй Расійскай Федэрацыі (комі адзін з гэтых народаў). Расія працягвала заставацца імперыяй, яна імкнулася апярэдзіць любыя спробы народаў дасягнуць этнічнай роўнасьці, рабіла, як і раней, усё магчымае, каб выжываньне карэнных народаў было немагчымым.

У выбарах у нацыянальную палату, улады рэспублікі пабачылі пагрозу імперскім інтарэсам. 17 лютага 1994 г., нягледзячы на мітынг пратэсту каля Вярхоўнага Савету Комі Рэспублікі, Вярхоўны Савет прымае Канстытуцыю, у якой воля комі-народу не была адлюстраваная. Было адмоўлена ў заснаваньні двухпалатнага парламенту. Комі называюць гэта "канстытуцыйным каланіялізмам", калі бясправіе карэннага народу замацаванае Канстытуцыяй. Непрыхільнае стаўленьне да лідэраў нацыянальнага руху становіцца відавочным. У выніку "мяккіх рэпрэсіяў" да 1996 году шмат з іх губляюць працу, іх абвінавачваюць у "распальваньні нацыянальнай варожасьці". У 1997 годзе Веньямін Надуткін хацеў расказаць на "Зьезьдзе комі-народу" пра рускі каланіялізм, міліцыя зьбіла В.Надуткіна, пашкодзіла пазваночнік, ён стаў інвалідам. У 1998 годзе пачынаюцца арышты, у судзе забараняюць гаварыць на комі-мове. Рэпрэсіі працягваюцца і цяпер".

Комі імкнуцца аднавіць нацыянальную адукацыю. Цяпер у школе комі-мова вывучаецца толькі ў так званых нацыянальных школах як прадмет, тое ж тычыцца і комі-літаратуры. Школы, у якіх усе прадметы выкладаліся на комі-мове зьніклі ў канцы 60-х гадоў.

Большая частка комі жыве ў асноўным у вёсках, дзе карыстаюцца толькі роднай мовай. Дзеці да паступленьня ў школу рускай мовы ня ведаюць, але паступова пачынаюць гаварыць па-руску, бо ўся адукацыя на рускай мове. Прозьвішчы комі цяпер гучаць на рускі манер, маюць рускія канчаткі. Але корань у іх — комі. Напрыклад, "Канев", ад слова "кань" — котка, "Кузькокаў" — "Доўгая нага". А традыцыйна комі не мелі прозьвішчаў, яны мелі складаную сістэму імёнаў, дзе напачатку згадвалася імя пачынальніка роду, а пасьля ўсе родзічы, заканчваючы дзедам, бацькам і, нарэшце, уласным імем. Гэта вельмі доўга, таму звычайна ўжывалася спачатку імя бацькі, пасьля ўласнае імя. Комі-пісьменьнікі выкарыстоўвалі традыцыйныя імёны ў якасьці псеўданімаў. Быў такі пісьменьнік Чысталёў Веньямін Цімафеевіч, яго літаратурнае імя — традыцыйнае Ціма Вень.

Над існаваньнем самабытнага комі-народу навісла рэальная пагроза — пагроза зьнікненьня. Бо ў любой імперыі жыцьцё "малых народаў" (як і наогул жыцьцё чалавека), ахвяруецца ў імя "вялікай дзяржавы" каштоўнасьць правоў асобы і духоўнай свабоды тут адмаўляецца.

**Паліна СЬЦЕПАНЕНКА.**

Права на волю. Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна".
Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах.
Наклад 299 асобнікаў. Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ.
Пры передруку спасылка на бюлетэнь абавязковая.

Адрас рэдакцыі:
220013 Менск, а/с 49.
E-mail:viasna@spring96.org
www.spring96.org

*У нумары скарыстаныя фотаздымкі з архіву Праваабарончага Цэнтру "Вясна"*